РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 40 (7853) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 27 мая 2000 г. Цана 25 руб.

## Пашавы сезон – магчымасць для росту прадукцыі

**(З РАЁННАЙ НАРАДЫ ПА ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ)**

Жывёлагадоўля з'яўляецца вядучай галіной сельскай гаспадаркі. Яна пастаянна дае прадукцыю, ад рэалізацыі якой гаспадаркі маюць значны грашовы даход. Гэтым і тлумачыцца вялікае значэнне, якое надаецца ў раёне развіццю галіны.

У райвыканкаме праведзена вытворчая нарада, дзе разгледжаны асноўныя вынікі работы жывёлаводаў калгасаў за мінулыя чатыры месяцы года. Інфармацыю зрабіў першы намеснік начальніка райсельгасхарчу Віталь Нямёнкін.

Адзначалася, у прыватнасці, што па стану на 1 мая ў гаспадарках раёна было 17942 галавы буйной рагатай жывёлы. Колькасць яе ў параўнанні з аналагічным мінулагоднім перыядам скарацілася на 2103 галавы, або на 10 працэнтаў. Асноўная прычына – недаатрыманне прыплоду цялят з пачатку года, якіх недалічыліся каля 900. Адмоўна адбілася і слабая работа па закупу цялят у насельніцтва. Дагэтуль прынята ўсяго 920 галоў маладняку. Трэба яшчэ закупіць не менш 700. Дрэнна працуюць па закупу цялят калгасы "Забычанне", імя Карла Маркса, "Новае жыццё", "Бароньki" і "Расія".

Не ўсё зрабілі адкормачныя гаспадаркі па камплектаванню сваіх комплексаў. У калгасе "Парыжская камуна" не хапае 250 бычкоў, "Ленінскі шлях" – 150, "Новы быт" – 200. Кіраўнікі гэтых гаспадарак Аляксандр Міхеенка, Мікалай Таўпека і Віталь Шышоў павінны запоўніць памяшканні пагалоўем.

У раёне назіраецца шмат парушэнняў, звязаных з узнаўленнем статка. Як указвалася вышэй, недаатрымана 880 цялят. Нізкая прывага рамонтнага маладняку. Недакормліваюцца цялушкі. У апошнія гады ўзнікла праблема расшыранага ўзнаўлення ў шэрагу гаспадарак. Дырэктар райплемстанцыі Людміла Голікава больш падрабязна расказала аб становішчы і неабходных мерах, якія павінны быць прыняты.

Па-ранейшаму застаецца высокім непрадукцыйнае выбыццё буйной рагатай жывёлы. З пачатку года такім чынам страчана 2739 галоў, або 23,5 працэнта да прыплоду. Хаця пагалоўе жывёлы скарачаецца, аднак страты ад выбыцця павялічваюцца. З-за гэтага нясуць вялікія выдаткі самі ж калгасы. Напрыклад, у "Новым быце" непрадукцыйна выбыла 61,4 працэнта маладняку. Кіраўнікі разглядаліся на калегіі райсельгасхарчу. За непрыняцце неабходных мер па недапушчэнню паморку і прырэзкі цялят аб'яўлены вымовы старшыні калгаса Віталю Шышову і галоўнаму ўрачу раёна Аляксандру Судзілоўскаму.

Падобныя страты дапускаюцца і ў калгасах "Смолькі", "Новае жыццё", імя Карла Маркса. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што ветэрынарная прафілактычная работа ў большасці гаспадарак зведзена да нуля. Неабходна палепшыць работу ветслужбы, наладзіць вучобу ветработнікаў.

Заўважана, што кіраўнікі гаспадарак амаль не аналізуюць становішча спраў у жывёлагадоўлі. Практычна ніхто не ўнікаў у работу спецыялістаў па ўзнаўленню статка. Кожны год зніжаецца колькасць злучанай жывёлы з-за дрэннай работы з маладняком. Толькі за 4 месяцы года ў параўнанні з гэтым часам летась не злучана 431 галава. А гэта значыць, што і ў наступным годзе будзе недабор цялят.

В. П. Нямёнкін прааналізаваў развіццё малочнай вытворчасці. За 4 месяцы года атрымана 2757 тон малака, што склала 84 працэнты да мінулагодняга. Абсалютная лічба недабору – 534 тоны. Найбольшае скарачэнне вытворчасці малака дапушчана калгасамі "Дуброва", "Праўда", "Новае жыццё". Тут мінус складае ад 57 да 80 працэнтаў. Не палепшылася становішча і ў красавіку. Калгасы раёна надаілі за месяц усяго 749 тон малака, або на 22 працэнты менш чым летась. У той жа час у калгасах "Дуброва", "Забычанне", "Парыжская камуна", "Кранштат" вытворчасць знізілася адпаведна на 46, 50, 46 і 42 працэнты. Недабор малака ў красавіку меў месца ў калгасах імя Карла Маркса, "Парыжская камуна " і "Дуброва". Скажам, у "Дуброве" дойны статак паменшыўся на 33 працэнты, а вытворчасць малака знізілася на 50 працэнтаў. У гэтай гаспадарцы вельмі нізкая дысцыпліна работнікаў жывёлагадоўлі. Не выпадкова атрыманы такія вынікі.

Далёка не ўсё робіцца па павышэнню прадуктыўнасці дойнага статка. З пачатку года ў калгасах раёна надоена ад каровы ўсяго па 459 кілаграмаў малака. Гэта на 75 кілаграмаў менш мінулагодняга. Рэзкае зніжэнне надою дапусцілі калгасы "Новае жыццё", "Новы быт", "Праўда", "Парыжская камуна". Тут недаатрымалі 162-136 кілаграмаў малака ад каровы. Не дабіліся прыбаўкі надояў малака гаспадаркі раёна ў красавіку. За месяц атрымана ад каровы па 124 кілаграмы, што на 32 менш, чым летась.

*(Працяг на 2 стар.)*

## ЧАРГОВЫ ДЗЕНЬ ІНФАРМАВАННЯ

Згодна з зацверджаным планам 17 мая 2000 года ў раёне адбыўся адзіны Дзень інфармавання насельніцтва. Работнікі раённага выканаўчага камітэта правялі сустрэчы ў працоўных калектывах.

Раён наведала група работнікаў аблвыканкама, якія прынялі ўдзел у гэтым мерапрыемстве. Яны выступілі перад спецыялістамі ўпраўлення сельскай гаспадаркі, на прадпрыемствах і ў арганізацыях.

З калектывам Беларускага цэментнага завода сустрэўся намеснік старшыні райвыканкама Васіль Мар'еў. Размова ішла аб жыцці і працы цэментнікаў. Яны, у прыватнасці, узнялі пытанне аб рабоце дзіцячых дашкольных устаноў. Садкі нярэдка не працуюць, бо з перабоямі сюды падаецца вада. Бацькі дзяцей у такіх выпадках вымушаны рабіць прагулы, што нявыгадна ні ім самім, ні прадпрыемству.

З удзелам В. Р. Мар'ева прайшоў інфармацыйны дзень у дзіцячай школе мастацтваў, райпа. Усе ўзнятыя прысутнымі пытанні зафіксаваны і пастаўлены на кантроль. Прымаюцца меры па вырашэнню просьбаў і заўваг.

**Ул. інф.**

## Па актуальных пытаннях

На Касцюкоўшчыне працавала інфармацыйная група аблвыканкама. Ажыццяўляўся прыём грамадзян па асабістых і службовых пытаннях. Праходзілі сустрэчы ў працоўных калектывах.

Са спецыялістамі ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання сустрэлася намеснік старшыні аблсельгасхарчу Тамара Актысева. Яна расказала аб тым, якая абстаноўка на сучасны момант стварылася ў сельскай гаспадарцы вобласці. Карціна не вельмі прыемная. Сёлета ў гаспадарках нядрэнна праведзена сяўба яравых культур. Аднак сухавеі і маразы зрабілі сваю справу. На вялікіх плошчах пашкоджаны пасевы. Культурныя расліны знаходзяцца ў прыгнечаным стане. На кампенсацыю вынікаў стыхійнага бедства ўрадам выдзелена вобласці з валютнага фонда 500 тысяч долараў. Частка з гэтых грашовых сродкаў будзе накіравана Касцюковіцкаму раёну.

Пашавае ўтрыманне грамадскай жывёлы па вядомых прычынах таксама праходзіць не так, як хацелася б. Бедны травастой, а таму і нізкія надоі. Безумоўна, што б там не было, але апускаць рукі нельга. Трэба знаходзіць лепшую пашу, каб жывёла пасвілася там кругласутачна. Бо 70 працэнтаў усёй выручкі калгасам дае жывёлагадоўля.

Нягледзячы на сухое надвор'е, як адзначыла дакладчыца, неабходна рыхтавацца да нарыхтоўкі кармоў на прадстаячую зімоўку. Выдзелены грошы на рамонт кормаўборачнай тэхнікі. З прывядзеннем яе ў гатоўнасць нельга марудзіць.

Затым адбыўся абмен думкамі. Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталь Грышанаў на канкрэтных прыкладах расказаў аб тым, што робіцца ў раёне ў такі складаны час па падтрыманню калгасаў. Каб паспяхова правесці нарыхтоўку кармоў, неабходна набыць два ўніверсальныя камбайны КЗР-10. Іх варта сканцэнтраваць у механізаваным атрадзе, які дзейнічае пры райаграпрамтэхніцы.

Тамара Актысева паабяцала дапамагчы нашаму раёну, як пацярпеўшаму ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў набыцці патрэбных сельскагаспадарчых машын.

У гутарцы прынялі ўдзел спецыялісты ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. Кожны з іх свабодна мог выказаць свой пункт погляду. Такія сустрэчы, несумненна, прыносяць карысць.

**Генадзь ЗАХАРЭНКА.**

## ДЗЕНЬ САВЕТА

На базе Бялынкавіцкага сельскага Савета дэпутатаў праведзены "Дзень Савета", што рэгулярна практыкуецца ў раёне. Разглядалася практыка работы сельскага Савета і сельвыканкама па арганізацыі закупу малака і мяса ў насельніцтва, забеспячэнню кармамі асабістых падсобных гаспадарак грамадзян. Прынялі ўдзел старшыні і сакратары сельскіх Саветаў, старшыні калгасаў "Прагрэс" і "Новы быт", старшыні селькамаў Бялынкавіцкага сельсавета, малаказборшчыкі.

Адкрываючы "Дзень Савета", старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык спыніўся на агульных задачах па арганізацыі закупу малака і мяса ў насельніцтва. Як наладжаны закуп на тэрыторыі Бялынкавіцкага сельсавета і якая роля ў гэтым мясцовага органа ўлады – аб гэтым расказаў яго старшыня Дзмітрый Цімашэнка.

Развіццё асабістых падсобных гаспадарак грамадзян і павелічэнне закупу малака і мяса – тэма выступленняў кіраўнікоў калгасаў "Новы быт" і "Прагрэс" Віталя Шышова і Фёдара Жукава. Аб ролі і задачах насельніцтва сельсавета ў паляпшэнні самазабеспячэння прадукцыяй сельскай гаспадаркі за кошт развіцця асабістых падсобных падворкаў гаварылі старшыні селькамаў вёсак Канічы і Бялынкавічы В. В. Курачкін і Ілля Максіменка. Малаказборшчык вёсак Кубракоўка і Бялынкавічы А. Варвуль узняў праблемы, якія ўзнікаюць пры зборы лішкаў сельгаспрадукцыі ў насельніцтва, і іншыя, а таксама назваў шляхі іх вырашэння.

Быў наладжаны абмен вопытам удзельнікаў "Дня Савета". Падведзены яго вынікі, пастаўлены канкрэтныя задачы перад сельскімі органамі ўлады.

**Ул. інф.**

## ЗВЕСТКІ

***аб надоях малака ў гаспадарках раёна па стану на 25 мая гг.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – надоена ў 2000 годзе ад каровы, трэцяя – атрымана ў 1999 г. (кг).*

| | | |
|---|---|---|
| "Пар. камуна" | 10,6 | 12,8 |
| "Новае жыццё" | 10,4 | 10,8 |
| "Новы быт" | 9,7 | 9,7 |
| "Прагрэс" | 9,1 | 8,9 |
| "Дуброва" | 9,0 | 9,2 |
| "Бароньki" | 9,0 | 9,5 |
| "Лен. шлях" | 8,3 | 8,3 |
| "Радзіма" | 8,0 | 9,0 |
| імя Калініна | 7,7 | 6,6 |
| "Смолькі" | 7,6 | 7,6 |
| "Праўда" | 7,4 | 7,5 |
| "Расія" | 7,0 | 6,1 |
| імя К. Маркса | 6,6 | 6,6 |
| "Кранштат" | 6,1 | 6,1 |
| "Забычанне" | 5,8 | 6,9 |
| **ПА РАЁНУ:** | **8,13** | **8,24** |

## Выпускны для дзяцей-сірот

Днямі выпускнікі 9 класа школы для дзяцей-сірот, а іх 25, ездзілі на выпускны вечар у Палац піянераў у Магілёў. Свята для іх было арганізавана абласным упраўленнем адукацыі. Пасля культурна-забаўляльнай праграмы рабятам уручылі падарункі.

## Традыцыйная "Зарніца"

Нядаўна на гарадскім стадыёне прайшла ваенна-спартыўная гульня "Зарніца", якая ўжо стала традыцыйнай. Вучні 7-8 класаў школ горада спаборнічалі ў спартыўным арыентаванні, выпускалі "баявы лісток", удзельнічалі ў конкурсах строю і песні, пажарных і г.д. Па выніках гульні пераможцамі сталі вучні СШ № 2, на другім месцы – СШ № 3, на трэцім – СШ № 4.

**Ул. інф.**

# Пашавы сезон – магчымасць для росту прадукцыі

**(З РАЁННАЙ НАРАДЫ ПА ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ)**

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

Перад жывёлаводамі калгасаў была пастаўлена задача максімальна скараціць адставанне па вытворчасці малака ў маі, а затым павялічыць яе ў параўнанні з перыядам пашавага ўтрымання летась. Паўсюдна была рэкамендавана арганізацыя кругласутачнай пасьбы жывёлы, рацыянальнае выкарыстанне пашы. Гэта прынесла пэўныя вынікі. Толькі за апошні тыдзень надой малака па раёну ў дзень павялічыўся на 4962 кілаграмы. Істотнай прыбаўкі дабіліся калгасы "Забычанне", "Праўда", імя Калініна, "Прагрэс", дзе надой ад каровы павысіўся на 1,7–1,2 кілаграма. Калгасы ж "Дуброва", "Парыжская камуна", "Новы быт", "Бароньki" і "Кранштат" атрымалі мізэрны прырост надою.

Не поўнасцю выкарыстоўваецца такі вытворчы рэзерв, як начная пасьба кароў. Не ўключаны ў работу перасоўныя даільныя ўстаноўкі. Недастаткова працуюць па пераходу на даенне на пашы калгасы "Бароньki", "Расія", "Новае жыццё", "Радзіма" і "Ленінскі шлях".

Не вызначаецца высокай якасцю рэалізуемае малако. Асабліва гэта датычыць калгасаў імя Карла Маркса, імя Калініна і "Бароньki". Тут прададзена негатункова малака 28, 16 і 16 працэнтаў адпаведна. Для параўнання: 86 працэнтаў малака вышэйшым гатункам рэалізуецца ў калгасе "Парыжская камуна". Якасную прадукцыю прадаюць "Прагрэс", "Новы быт".

У параўнанні з мінулым годам знізілася і рэалізацыя малака дзяржаве. Скарачэнне продажу склала 19 працэнтаў, або 355 тон. Менш за ўсіх прадалі малака калгасы "Праўда", "Забычанне", "Кранштат", "Дуброва", імя Калініна. Яго пастаўлена адпаведна 47, 69, 40 працэнтаў да мінулагодняга.

Калі дбаць аб перспектывах, трэба ўлічваць важнейшы фактар атрымання малака – стварэнне пашаў, а таксама падсеў шматгадовых траў. Практычна гэта работа ў большасці гаспадарак "правальваецца". Для дасягнення любой цаной ураджайнасці збожжавых за кошт экстэнсіўных метадаў вырошчвання гэтых культур на тэрыторыях каля ферм глеба ўзорваецца і адводзіцца пад збожжавыя, або занята агародамі. З плана падсеву шматгадовых траў 5900 гектараў фактычна падсеяны яны на 3830 гектарах, або на 65 працэнтах плошчы. У калгасе "Кранштат" пасеялі травы толькі на 80 гектарах. Спецыялісты аграномічнай службы Іван Падабед, Уладзімір Казакоў не бачаць сваіх упушчэнняў. Узараны апошнія гектары траў у Муравіллі. Да таго ж аграномы перавялі выдзеленыя на зялёны корм азімыя ў групу збожжавых. Такое ж становішча з падсевам траў у калгасах імя Карла Маркса, "Ленінскі шлях", "Расія", "Забычанне". Канюшына амаль зусім не вырошчваецца. Адкуль жа будзе кармавая база для жывёлагадоўлі? З выдзеленых 411 гектараў азімых скормлена жывёле ўсяго 100. У шэрагу гаспадарак пашы каля ферм зусім няма. У якасці станоўчага прыкладу прыводзіўся калгас "Праўда". Тут паша добрая, удзяляецца вялікая ўвага ўзнаўленню статка. Ёсць надзея, што вытворчасць малака ў калгасе будзе павялічвацца.

Безумоўна, падводзіліся вынікі і ў мяснай жывёлагадоўлі. За мінулыя 4 месяцы па раёну на гадоўлі і адкорме буйной рагатай жывёлы атрымана 361 тона прывагі, або 94 працэнты да мінулагодняга. Значна знізілі прадуктыўнасць яе калгасы "Расія", "Кранштат", "Новае жыццё", "Прагрэс".

За красавік валавая прывага жывёлы "не дацягнула" і да 100 тон. Не атрымаў прыбаўкі калгас "Смолькі". Вельмі нізкая яна была ў "Кранштаце", "Праўдзе", "Забычанні". Скарацілі прывагу і адкормачныя калгасы.

У цэлым па раёну сярэднясутачная прывага жывёлы склала 289 грамаў. Дасягнута прыбаўка, якая склала 12 грамаў. У той жа час знізіліся прывагі ў калгасах "Новы быт", "Дуброва", "Новае жыццё", "Парыжская камуна". Калгасы раёна забяспечылі пэўную прыбаўку прывагі і ў красавіку. Але некаторыя з іх атрымалі далёка недастатковую прывагу.

Называючы прычыны негатыўных фактаў, В. П. Нямёнкін заўважыў, што ў калгасе імя Карла Маркса практычна не працуе заатэхнічная служба. Таму ён лічыць немэтазгодным выкарыстанне галоўнага заатэхніка Аўхуцкай на гэтай пасадзе.

Для скарачэння недабору прывагі ў летнія месяцы неабходна як след накарміць жывёлу. Шлях вызначаны – арганізацыя пасьбы адкормачнага маладняку і падкормка цялят зялёнай масай. Між іншым, назіраюцца зрывы ў кармленні пагалоўя. Так, у калгасе "Прагрэс" несвоечасова падвозілі зялёную масу цялятам. За абыякавыя адносіны да сваіх абавязкаў праўленне калгаса аб'явіла вымовы намесніку старшыні гаспадаркі Пятру Вараб'ёву і галоўнаму заатэхніку Мікалаю Пачко. Загадчыкі ферм папярэджаны.

Кіраўнікам астатніх гаспадарак неабходна больш строга спытваць з кадраў, якія адказваюць за жывёлагадоўчую галіну.

Нярэдкія выпадкі зрываў падвозу вады і солі на пашы. Неабходна замацаваць асобныя трактары за фермамі і вызначыць адказных за іх работу заатэхнічных спецыялістаў.

На нарадзе закраналіся пытанні выканання праграмы свінагадоўлі. У кожнай гаспадаркі ёсць мерапрыемствы па павелічэнню пагалоўя свіней. Пакуль намечанае выконваецца. Аднак самы адказны перыяд – месяцы май, чэрвень гг.

У рабоце нарады прыняўлі ўдзел старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў і першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў.

# ТЭАТР У ШКОЛЕ

*У сярэдняй школе № 2 тэатральнае мастацтва знайшло сваю пастаянную прапіску. Настаўнікі звяртаюцца да гульняў-драматызацый і пастановак, спектакляў, як да метаду маральнага і эстэтычнага выхавання вучняў. Ідэя "Тэатра ў школе" знаходзіць сваіх прыхільнікаў як сярод вучняў, так і сярод настаўнікаў.*

*Ужо які год у нашай школе існуе тэатральны гуртом пад назвай "Несцерка". Яго ўзначаліла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ірына Міхайлаўна Вараб'ёва. Вучні 11 класаў з вялікім задавальненнем наведваюць гэты гурток. Да Дня Перамогі яны паказалі сваю работу: паставілі п'есу па сцэнарыю М. Матукоўскага "Мудрамер". Вядома, рыхтавалі яе не адзін і не два тыдні, а распрацоўвалі на працягу ўсяго навучальнага года. Гэта п'еса зараз у школе карыстаецца вялікім поспехам. Яна спадабалася не толькі вучням, а і нашым настаўнікам, якія шчыра зазначылі: "Талент ёсць, трэба ісці ўперад". Нашы юныя акцёры таксама засталіся задаволеныя тым, што ўсё атрымалася вельмі добра і іх праца прынесла радасць і свята кожнаму з прысутных, узняла настрой.*

**Марына ЕЎСТАФ'ЕВА,**
**вучаніца 11 класа СШ № 2.**

**СВЕТ НАШЫХ ЗАХАПЛЕННЯЎ**

# Мастакі з чулымі сэрцамі

***Нядаўна ў краязнаўчым музеі пачала працаваць выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як майстроў, вядомых у нашым горадзе і не толькі, так і тых, якія робяць першыя крокі ў сваім захапленні.***



У выставачнай зале музея размясціўся 351 твор. Іх прадставілі больш як 60 аўтараў. Варта заўважыць, што 17 з іх па роду сваёй прафесіі займаюцца дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам. Сярод іх Марына Гаршкова, выкладчыца школы мастацтваў, у якой былі работы з керамікі. Маленькія скульптуркі мастачка аб'яднала ў агульную серыю "Мульцяшкі". Яе калега, мастак Аляксандр Захарэнка, прадставіў лясную скульптуру.

Васіль Роеў – выкладае ўрокі працоўнага выхавання ў СШ № 3. Займаецца сам разьбой па дрэве, вучыць гэтаму сваіх выхаванцаў. Таму яго разныя і точаныя вырабы вызначаюцца высокай якасцю.

Віктар Бацаленка, Аляксей Беляцоў таксама ў Цэнтры дзіцячай творчасці ўзначальваюць гурткі. Калі першы займаецца мазаікай з рознакаляровага шкла, керамікі, металапластыкі, то Аляксей – вырабамі з дрэва, разьбой, пляценнем з вярбовых пруткоў.

Сяргей Еўстаф'еў, Сяргей Усаў, Марына Кардапава, Аляксандр Чэхуноў, Любоў Ліпень, Любоў Ніжнікава, Вольга Сілкіна, Ірына Глушакова – педагогі. Яны займаюцца дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам не толькі па неабходнасці ў школе і дзіцячых садках, а і для сябе. Як кажуць, каб адвесці душу. Вядома, іх работы адрозніваюцца акуратнасцю, зробленыя з усімі патрабаваннямі, густам.

Працуючы з дзецьмі, расказваючы пра тонкасці і складанасці, прыгажосць і перавагу рэчаў, зробленых сваімі рукамі, педагогі выхавалі вучняў, якія сапраўды сталі іх паслядоўнікамі. І ў вольны час бяруць у рукі разцы або нажніцы, неабходны матэрыял. З-пад іх рук выходзяць цудоўныя пано, макрамэ, кошыкі, куфэрачкі, розныя карнізы, карціны, падсвечнікі, рэчы хатняга ўжытку і г.д. Дакладней, чалавеку, мастаку, які, як кажуць, бачыць у кожным кавалачку дошкі, ці паленцы, галінцы нейкі вобраз, вялікіх намаганняў не трэба, каб дапамагчы ажывіць гэтыя вобразы. Некаторыя работы аўтараў выстаўляліся на раённых, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выставах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Іх аўтары маюць шмат заахвочванняў.

Сёння на выставе ў краязнаўчым музеі радуюць позірк не толькі творы вядомых у нашым горадзе аўтараў. Значнае месца адведзена так званым майстрам-самавучкам, якія даходзілі да ўсяго самі. Знайшоўшы свой стыль, а на выставе былі змешчаны работы больш самабытныя, майстры ў сваіх "рабочых лабараторыях", а гэта часцей пакой у кватэры, нараджалі цудоўныя творы. Яны ўпрыгожвалі сваё жыллё і дарылі іх сябрам, знаёмым. Іх, як майстроў, мала хто ведае. Аднак хацелася б назваць іх прозвішчы. Гэта Мікалай Арэхаў з Прусіна, Тамара Шынкарова, Суліко Дудаеў, Соф'я Куцапалава з Каніч, Андрэй Глушкоў з горада, Тамара і Ніна Жарыкавы з Шарэек і іншыя. Проста немагчыма пералічыць усіх, хто са звычайнай саломкі, вярбовых пруткоў, дрэва, гліны, нітак, з дапамогай неабходных інструментаў і сваёй фантазіі, робіць цудоўныя рэчы.



Асабліва хочацца сказаць пра такога майстра, як Сяргей Благушка. Па прафесіі ён – заатэхнік, працуе вартаўніком, а па прызванню – мастак. Калекцыя яго работ, прадстаўленых на выставе, стракаціць шматвобразнасцю. Тут некалькі работ разьбы па дрэве на гістарычную тэму, прадметы быту і інш. У вольны час Сяргей шчыруе над новымі творамі. Ён плануе і далей працаваць над работамі на гістарычныя тэмы.

Пра творы самабытнага майстра Аляксандра Шчарбакова хочацца сказаць асобна. На выставе іх было больш за 40. Аўтар іх не вучыўся быць мастаком. Ён ім стаў па кліччу сэрца. Гэты занятак – разьба па дрэву – у цяжкія хвіліны жыцця маладога чалавека дапамог яму выстаяць, перамагчы цяжкую траўму. Ён – інвалід. І ўсе свае творы рабіў не дасканалым інструментам, а нажом і стамескай, не па кнігах, дзе гаворыцца пра ўсе тонкасці дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Усе работы народжаны яго багатай фантазіяй, створаны па загаду сэрца, "параненай" душы. Яго работы можна аднесці да інсітнага мастацтва. Ён – "мастак святога сэрца".

Вядома, шмат можна гаварыць пра кожнага аўтара, кожны твор. Аднак гэта ўсё лепей адной ўбачыць. Выстава будзе працаваць да сярэдзіны чэрвеня. У далейшым плануецца зрабіць яе традыцыйнай, каб змаглі ўдзельнічаць у ёй больш разнастайных майстроў з вёсак нашага раёна. І хочацца сказаць дзякуй яе стваральнікам,у першую чаргу, дырэктару Дома рамёстваў Пятру Капытову, які планаваў напачатку арганізаваць выставу работ сваіх вучняў, а потым вырашыў адшукаць у раёне майстроў, аб'яднаць іх творы, даць магчымасць дакрануцца позіркам, душой да іх кожнаму, адчуць, колькі дабрыні і цяпла ўкладзена ў кожную рэч. Удзячнасць таксама в.а. дырэктара музея Святлане Камышавай і іх супрацоўнікам, якія імкнуцца данесці ўсё гэта хараство да жыхароў нашага раёна.



**Наталля КАВАЛЁВА.**

**На здымках: каля работ дырэктар Дома рамёстваў Пётр КАПЫТОЎ; на выставе; майстар разьбы па дрэву Аляксандр ШЧАРБАКОЎ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

Никто не забыт, ничто не забыто

# ОНИ БЫЛИ НА ТОЙ ВОЙНЕ

Селецковская школа проводит большую работу по патриотическому воспитанию школьников. Немаловажную роль в этом играет краеведческий музей, где собраны материалы об участниках Великой Отечественной войны, их мужественном сражении на фронтах. Среди фронтовиков Семен Михайлович Авхутский, уроженец деревни Фроловка. В ряды Советской Армии был призван в 1941 году. Воевал на многих фронтах. Был трижды ранен. Освобождал города: Новгород, Северск, Шостку и др. За боевые подвиги награжден многими орденами и медалями. В мирное время Семен Михайлович награжден орденом Октябрьской революции.

Сергей Константинович Салоненко родился в деревне Двор-Буда. Был призван в ряды Советской Армии в 1944 году. Участвовал в освобождении Латвии, Литвы и Восточной Пруссии. За мужество и героизм, проявленные в боях, награжден многими орденами и медалями.

Николай Тимофеевич Азаренко — уроженец деревни Алесенково. Был призван в армию в 1941 году. Освобождал город Харьков, где был ранен в голову. Воевал на Орловско-Курской дуге. Имел правительственные награды: ордена Славы II и III степени, Отечественной войны II степени, медали "За боевые заслуги", "За отвагу", "За оборону Москвы", "За взятие Берлина", "За победу над Германией".

В деревне Селецкое живет ветеран войны, скромный незаметный Яков Павлович Ефремов. Принимал участие в боевых действиях на II-ом Прибалтийском фронте.

— Бои были тяжелые, — вспоминал Яков Павлович, — в одном из них был ранен в грудь мой друг Василий Логвинов из деревни Алесенково. Я вынес из поля боя раненного друга и оказал ему необходимую помощь.

За участие в Великой Отечественной войне Я. П. Ефремов награжден орденом "За победу над Германией", медалью Жукова и многими юбилейными медалями.

Г. П. Ильенков — уроженец деревни Кулигаевка Демидовичского сельсовета. В ряды Советской Армии был призван в 1943 году. Освобождал Беларусь, Восточную Пруссию, Польшу и Восточную Германию. Наиболее памятные эпизоды – форсирование р. Проня, оборонительные бои в Быховском районе, форсирование реки Днепр и прорыв обороны противника на правом берегу Днепра. Имеет награды: ордена Отечественной войны, Красной Звезды, медали "За взятие Кенигсберга", "За взятие Берлина", "За победу над Германией", юбилейные медали. Судьба так распорядилась, что Г. П. Ильенков после войны работал учителем в нашей школе и сейчас живет в деревне Селецкое.

В экспозициях школьного музея представлены материалы об участниках Великой Отечественной войны нашей местности. Записаны их воспоминания о том суровом времени, оформлены папки. Огромное впечатление на учащихся школы производит "Доска памяти", на которую занесены фамилии погибших воинов деревни Селецкое в годы Великой Отечественной войны, а также планшет "Огненные вёрсты Гуни Н. М.", его трогательная история о встрече на войне отца и сына. Н. М. Гуня — кавалер орденов Отечественной войны II степени, Боевого и Трудового Красного знамени.

На базе музея проводятся уроки мужества, уроки истории, спецподготовки, уроки белорусской литературы, встречи с участниками Великой Отечественной войны, воинами-интернационалистами. Используется материал музея и во внеклассной работе классными руководителями.

**Раиса АЗАРЕНКО,**
**учительница истории Селецковской СШ.**

# Тревожат бабушку воспоминания

Воспоминания грустные и веселые, тревожные и волнующие. Они рядом, они помогают жить и помнить. Моей бабушке Надежде Ивановне скоро 70.

— А помнишь ли ты войну? — спрашиваю я.

— Как же её не помнить, проклятую? — слышу в ответ.

Разговор получился не сразу. У бабушки на глазах слёзы. Это слёзы не только горечи и переживаний, но и светлые слёзы памяти и уважения.

В небольшой деревушке с очень даже мирным названием Покоnь, что на Брянщине, жила счастливая и трудолюбивая семья. В одночасье нарушило всё громкое и страшное известие: "Война!". Показалось, сразу поникли травы и деревья, остановила своё течение местная речушка, люди словно онемели, узнав о войне. Ещё долго потом слышен был протяжный и тревожный клёкот аистов — птиц мира, добра и уюта. Из семьи моей бабушки, еще девчонки в то время, на фронт ушел отец и брат. Не суждено им было вернуться домой. Восемнадцатилетний брат погиб в первые месяцы войны в жестоком неравном бою на глазах у своих односельчан-земляков. С фронта он успел выслать лишь один солдатский "треугольник", который и доныне бережно хранится в бабушкином сундучке и считается семейной реликвией.

Отец бабушки погиб в конце войны и похоронен в далеком Запорожье. Светлые воспоминания сохранили образы этих героев молодыми, красивыми, родными. Вот они смотрят на нас с пожелтевших от времени фотографий. Они всегда с нами, они всегда в нашей памяти.

Потом воспоминания приводят нас к скромному деревенскому обелиску, рядом — братская могила, здесь же табличка, на которой фамилии, фамилии, фамилии... Все эти люди освобождали деревню от врага, погибли и навечно остались здесь. А в честь земляков, погибших на этой ужасной войне, воздвигнут обелиск.

— Отец Иван, брат Николай, спасибо вам за Победу, — шепчет бабушка...

— А я, её внук, тоже скорблю о тех, кто не вернулся из боя, но в то же время горжусь родными, которые смело и дружно ковали Великую Победу.

А жизнь продолжается. Мой отец назван в честь брата моей бабушки. Он тоже Николай...

**Юрий ХРОЛЕНОК,**
**юнкор СШ № 3.**

## У клопаце пра гараджан

Што і казаць, бывала раней, як падумаеш, што трэба схадзіць у вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі за даведкай, ці ўдакладніць кватрплату, то аж галаўны боль пачынаўся. Далекавата. Цяпер жа малюнак змяніўся ў лепшы бок. У горадзе пачало працаваць вытворчае прадпрыемства "Камунальнік". Адміністрацыя яго размешчана ў межах горада ў інтэрнаце вытворчага аб'яднання ЖКГ. Будаўнікі адрамантавалі памяшканне. Сюды зараз прыемна зайсці, а ветлівыя супрацоўнікі адказваюць на любыя пытанні, імкнуцца хутка вырашаць іх.

**Уладзімір КАПАЕЎ.**





Цішыня.
Фотаэцюд
Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.

## ОГОНЁК

*Пусть будет всё, что будет:*
*Судьба и есть судьба.*
*Любовь вдруг птицей станет*
*И прилетит сама.*
*Искать её не надо –*
*Она тебя найдёт,*
*Пройдёт сквозь все преграды*
*И птицей запоёт,*
*И солнцем озарится,*
*И ветерком лизнёт,*
*И сердце еле-еле*
*Морозом вдруг кольнёт.*
*Кольнёт и загорится*
*В душе огонь любви,*
*Потушишь – пожалеешь,*
*Вдохнёшь -- сгоришь и ты.*
*Но огонёчек этот*
*Не погасить вовек,*
*Поэтому зовёшься*
*Ты гордо ЧЕЛОВЕК!*

**Ольга ЕГОШИНА.**



**Калектыў аддзела "Ахова" выказвае глыбокае спачуванне ДОКУНАВУ Пятру Макаравічу з выпадку смерці брата ВАСІЛЯ.**

**Калектыў настаўнікаў, тэхнічных работнікаў, вучняў сярэдняй школы № 3 горада выказвае глыбокае спачуванне дырэктару ГУЛАК Лілі Міхайлаўне з выпадку напаткаўшага гора -- смерці МАЦІ.**

**Аддзел адукацыі райвыканкама і райкам прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі выказваюць глыбокае спачуванне дырэктару сярэдняй школы № 3 горада ГУЛАК Лілі Міхайлаўне з выпадку напаткаўшага гора -- смерці МАЦІ.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграрпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя – 2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
Газета выходзіць у сераду і суботу.

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1661 экземпляр
Друк афсетны
Падпісана ў друк 26. 05. 2000 г. 18.00
Заказ № 40

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.